—*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
8
СТУДЗЕНЯ
1993 г.
№ 2 (3672)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ
3 рублі



## ПРЫСЯГА

**У апошні дзень мінулага года адбылася падзея, якую адны ўсімі сіламі імкнуліся наблізіць, другія — па магчымасці адцягнуць. 31 снежня ўвесь асабовы склад Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь прыняў прысягу на вернасць беларускаму народу і ягонай дзяржаве.**

Памятаю, колькі было хвалявання, калі Вярхоўны Савет вырашаў прынцыповае пытанне, каму павінны прысягаць салдаты-беларусы чарговага прызыву: Садружнасці альбо Беларусі. Памятаю, як узрадавала мяне рашэнне ВС: грамадзяне Беларусі прысягаюць сваёй краіне. Гэта азначала, што мае сыны, калі падрастуць, не будуць служыць на чужыне, ім не давядзецца рызыкаваць жыццём і стратай сумлення праз удзел у якой-небудзь «інтэрнацыяналісцкай» акцыі.

То — салдаты. А што афіцэры? Яны па-ранейшаму лічыліся звязанымі маральным абавязкам з неіснуючай дзяржавай — Савецкім Саюзам. А калі браць да ўвагі, што Расія абвясціла сябе правапераемніцай Савецкага Саюза, а ў сваёй Канстытуцыі захавала ўпамінанне аб СССР (нібыта не было Белавежскага пагаднення...), дык узнікала небяспечная для нашага суверэнітэту сітуацыя: унутры Рэспублікі Беларусь абсалютна легальна існавала патэнцыяльная «пятая калона».

31 снежня гэтаму пакладзен канец. Цяпер няма таго, што афіцэр у маральным сэнсе (не ведаю, як у юрыдычным) мог бы ігнараваць загады ўрада РБ, бо не прысягаў Беларусі, а салдат, які такую прысягу прыняў, мог бы ігнараваць загады камандзіра, які, нягледзячы ні на што, упарта лічыць, нібыта «офицер присягает лишь однажды» і зразумела, ж, —СССР (у сэнсе — Расіі).

Цяпер на Беларусі беларускае войска. Праўда, у ім ёсць кантынгент афіцэраў-«наёмнікаў». Гэта тыя, хто прысягаць Беларусі не хоча і дадому ехаць не жадае. Некаторы час на нашай зямлі яшчэ будуць стаяць часці расійскай арміі. Спадзяюся, нядоўга. Наяўнасць замежных ваенных баз на тэрыторыі Беларусі фактычна перакрэслівае нейтральны статус нашай дзяржавы, кепска ўплывае на наш міжнародны прэстыж, дэстабілізуе ўнутраную абстаноўку на Беларусі.

Калі 8 верасня афіцэры-сябры БЗВ на Сваце беларускай вайсковай славы, не чакаючы дазволу альбо загаду, прынялі прысягу на вернасць Айчыне, чаго толькі ні пісалі пра іх у нібыта незалежных выданнях! Як палохалі расколам у войску і грамадстве, як цягнулі на старонкі газет прывід грамадзянскай вайны! А колькі да таго і пасля было спроб зацягнуць Беларусь у «оборонительный союз», загнаць наша войска пад «единое командование». Дзякуй Богу, не атрымалася! Справа, распачатая 8 верасня, мела годнае заканчэнне 31 снежня. З Новым годам, Беларускае войска!

Пётра ВАСІЛЕУСКІ.

Фота У. КАРМІЛКІНА.

Вечны Мастак запаліў
дыямэнтаў агні,
абвясьціў аб сабе
ў таямнічых узорах сьняжынак...
Вось яны таюць,
быццам дней нашых цені, зьнікаюць.
А памяць Гасподняя з роду ў род.

З Нараджэньнем Хрыстовым!

Dainova

# Так пачынаў Максім Беларус...

З 1909 ПА 1913 год Максім Гарэцкі, як вядома, вучыўся ў Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы. Як і крыху раней, калі наведваў заняткі ў Вольшы, не прамінаў выпадку, каб пабываць у бацькоў у Малой Багацькаўцы. Праўда, цяпер ад дому было куды далей, таму сустрэчы гэтыя станавіліся радзейшымі. Але яны прыносілі ранейшую асалоду сутыкнення са светам, дарагім і блізкім.

Разам з тым М. Гарэцкі і крыху інакш глядзеў на вясковую глуш, нешта ўспрыняў больш крытычна. Адбывалася тая пераацэнка, якая рана ці позна прыходзіць да кожнага чалавека, вымушанага разлучыцца з малой радзімай. А паколькі к гэтаму часу М. Гарэцкі сёе-тое ўжо пісаў, не магло не выспеліцца і жаданне паспрабаваць свае мажлівасці ў мастацкім творы. Максім разумеў: адна справа —допісы, карэспандэнцыі. Іншая — скажам, апавяданне.

Пакрысе вымалёўвалася і задума. Як і бывае найчасцей у падобных выпадках, пачынаючы аўтар ішоў ад уласнай біяграфіі, ад добра вядомага яму, што падказвала тагачасная рэчаіснасць. І назва апавядання з'явілася без прэтэнзіі на арыгінальнасць — «У лазні».

Рукапіс першага мастацкага твора М. Гарэцкага захоўваецца цяпер у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. Падпісаны ён псеўданімам «Максім Беларус», а далей М. Гарэцкі прыводзіць кароткія біяграфічныя звесткі: «Крэсцьянін вёскі Малае Багацькаўкі Шамоўскае воласці Мсціслаўск. пав. Маг. губ. Макс. Іван. Гарэцкі. Адрас: Горкі Маг. губ., каморніцка-агранамічнае вучылішча, М. І. Гарэцкаму». Апавяданне датуецца 3 студзеня 1913 года, але, як мяркуюць даследчыкі, якія займаюцца вывучэннем творчасці класіка нацыянальнай літаратуры, гэта хутчэй за ўсё дзень адпраўкі твора ў рэдакцыю «Нашай Нівы». Меркаваць падобным чынам дае падставы «Храналогія маіх твораў» М. Гарэцкага, дзе апавяданне «У лазні» пазначана 31 снежня 1912 года. Прапанаванае ў газету, яно было апублікавана 25 студзеня 1913 года.

У творы з самага пачатку ўсё проста, як і ў самім тагачасным жыцці: «Вучань апошняга класа каморніцкага вучылішча, казённы стыпендыянт Клім Шамоўскі, к калядам прыехаў удвору і ўжо другі тыдзень жыў у бацькавай хаце ў вёсцы Мардалысаве». Проста ў тым сэнсе, што перад чытачом паўстае звычайны вясковы побыт. Са звыклымі сялянскімі турботамі і такімі рэдкімі радасцямі. Адна з іх — магчымасць схадзіць у лазню. Запрашаюць туды і Кліма, ды ён спачатку працівіцца: «Я й сам не ведаю, ісці мне ці то ўжо не пачынаць. Колькі гадоў не мыўся я ў вашых лазнях, адвык». Як высвятляецца неўзабаве, на тое былі ў хлапца прычыны. Не проста «адвык» ён, Шамоўскі з пагардай ставіцца да бруду, якога шмат у лазні: «Прымыльнік быў плятнёвы, і скрозь пляцень дуў вецер. Пад нагамі—мяллё. Каля сценак ляжалі, раскірачыўшы ногі, самадзельныя мяліцы. Кліму было гразна, нячыста, непрытульна».

Шамоўскі працівіцца таму, што бачыць у лазні, але разумее і іншае: «Ці я не радзіўся сам у Мардалысаве, ці сам не купаўся ў гэтай гразі, не бачыў усякага бруду?». Здавалася б, толькі змірыцца трэба, успрыняць усё, як належнае, пастаяннае, звыклае. Ды лёгка гэта сказаць, а на самай справе: «Клім палез, апёк ляжку на гарачым палку, плакаў ад дыму і, махаючы венікам, праклінаў, скрыўджаны, і лазню, і тых глуздоў, хто пабудаваў яе такую. «Жывуць жа людзі, — думаў ён. — Лес пад бокам, жыды ў пана адваявалі яго за даўгі і прадаюць колькі гадоў; і сяляне, кожнагодна пускаючы на гарэлку рубельчыкі і жывучы сярод лесу, маюць лазню... каб яна, даруй божа, згарэла на чыстым полі гэткая».

Тое, што адбываецца ў душы Кліма, не маглі не заўважыць і мужыкі, аднак кінутае адным з іх: «Запанеў наш каморнік, пышан надта Клім Раманавіч, духу баіцца...» яшчэ больш раззлавала хлапца: «Свінні, а не людзі... Я вёз дамоў кніжкі, каб чытаць ім, а яны кожны вечар, кожнае свята гуляюць у карты ў Мікітавай хаце, а на кніжкі не звярнулі ніякай увагі...»

Баліць Клімава душа, кволіцца ад неразумення. І разам з тым не толькі ад неразумення, ёсць яшчэ і іншае, што робіць Шамоўскага чужым у роднай яму вёсцы, сярод людзей, якіх ведае з маленства. Тое самае, пра што пазней, праз шмат дзесяткаў гадоў беларуская літаратура загаворыць на поўны голас, паказваючы так званага гараджаніна першага пакалення, вытлумачваючы яго непрыкаянасць, як бы часовасць знаходжання і ў горадзе, і на сяле. М. Гарэцкі наблізіўся да падобнага разумення колішняга вяскоўца яшчэ восемдзесят гадоў назад, усебакова раскрыўшы характар Кліма Шамоўскага, пільна зазірнуўшы на самы спод яго душы: «І лацвей ім, — думаў Клім далей, — страляць у вочы «запанеў», ведаючы вагу свае векавечнае працы мужыцкае, а хай бы яны пабачылі боль сэрца і смутак душы ў мяне, прымача ў «панстве» і пасынка вёскі, і яны лепей паехалі б з сахою на родныя палеткі, чымся, адарваўшыся ад дзядоўскіх сяліб, вісець у новым і невыразным паветры...»

Гэты Клімаў роздум працягваецца і пасля выхаду хлапца з лазні. Думкі сягаюць ужо далей, ім цесна ў родным Мардалысаве, яны гатовы ахапіць сваёй трывожнасцю ўсю Бацькаўшчыну. Занядбаную, гаротную, богам забытую: «Думкі плылі, чапляліся адна за другую, роем мітусіліся ў галаве. «Беларусь, Беларусь, чым ты была і чаго ты, во, даждала?» — звінела ў адным баку. «І што з табою будзе?» — плыло ў другім».

Шукае Клім выйсце і прыходзіць да высновы, да якой ён рана ці позна мусіў бы прыйсці: «Але ж не адракацца, не быць здраднікам, а любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну павінен, доўжан...» Хаця пытанняў пасля гэтага не менш: «Люблю... ці ж я не люблю?.. А страшна яно, роднае... чым?»

Глыбокі сэнс набываюць заключныя радкі твора:

«— Ці не захварэла твая галава, Клім, пасля лазні? —спытаўся бацька.

— Палепшае, — адказаў сын».

«Палепшае...» Гэта тычыцца не аднаго Кліма Шамоўскага, а, безумоўна, і ўсёй Беларусі, пра заўтрашні дзень якой турбаваўся М. Гарэцкі ўжо ў самым пачатку свайго творчага шляху. Шукаючы ўласныя тэмы, прыглядаючыся да сваіх герояў, якія б імпанавалі яму адраджэнскімі настроямі, бачы-

# КРАСА І ВЕРНАСЦЬ

## Штрыхі да партрэта Анатоля ІВЕРСА

МАЛА ІХ ЗАСТАЛОСЯ, ветэранаў вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, на пальцах можна палічыць тых, што працавалі на культурнай ніве, забяспечвалі гэты рух ідэйна — песняроў, асветнікаў, публіцыстаў (да важкіх твораў прозы гэтая літаратура не змагла дайсці з-за неспрыяльных умоў). Жылі заходнебеларускія паэты кустамі, так лягчэй было ўзыходзіць і выстойваць. І, характэрна, што літаратурныя сябрыны кусціліся ў рэгіёнах інтэнсіўнага вызваленчага руху— Наваградчыне, Косаўшчыне, Дзятлаўшчыне, Скідзельшчыне.

Паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) паходзіць з вёскі Чамяры на Слонімшчыне. Ён усплываў на паверхню грамадскай дзейнасці як вучань Віленскай беларускай гімназіі поплеч з землякамі — Хведарам Ільяшэвічам, Якубам Міско, Міколам і Юркам Тарасюкамі, а з Валянцінам Таўлаем выдаваў на гектографе і распаўсюджваў вучнёўскі часопіс «Золак» у сотні асобнікаў па 50 грошаў за адзін нумар. Таўлай тады ўжо друкаваў заклікоўыя вершы ў грамадаўскай газеце, Іверс ішоў у літаратуру павольней. Але не адставаў ад сяброў у грамадскім жыцці, удзельнічаў у мітынгах і дэманстрацыях пратэсту супраць судовай расправы пілсудчыкаў з актывам Грамады, быў выключаны з гімназіі, справаў закончыць сярэднюю адукацыю ў Клецку, потым Наваградку, але і гэтыя гімназіі закрываліся ўладамі за беларускасць. І, відаць, балюча перажыў ён тыя ганенні, бо не пайшоў па тагачаснай завядзёнцы з камсамола ў КПЗБ прафесіяналізавацца на функцыянера, вярнуўся дамоў.

Успрыняў вяртанне сваё як сплату доўгу ўдзячнасці зямлі, зямельцы роднай: «І пацягнула ўдаль мяне разлука з крывых завулкаў Вільні да раллі». Прайшоўшы землябробскую школу, ды адслужыўшы ў войску, І. Міско не збавіўся ад заваражанасці паэзіяй, якая ў часе ўздымаў вызваленчага руху несла ў масы беларускую ідэю не горш, чым публіцыстыка: звязаўся з «Літаратурным фронтам», які ўтварыў тайна, вярнуўшыся з БССР, В. Таўлай. У альманаху гэтай арганізацыі «Літаратурная старонка» выйшаў першы друкаваны верш А. Іверса «Вёска».

Пасля арышту работнікаў рэдакцыі і забароны выдання ён падаўся ў прэсу, звязаную з Народным антыфашысцкім фронтам. У 1935 годзе рэгулярна друкаваўся ў часопісе «Калоссе», які стаў мастом збліжэння прагрэсіўнай інтэлігенцыі розных ідэалагічных адценняў. Там пачаў раскрывацца талент паэта.

У 1939 годзе А. Іверс атрымаў ад рэдактара Янкі Шутовіча прапанову выдаць кніжку вершаў. Атрымалася невялікая кніжачка: адзін друкаваны аркуш паперы, збрашураваны ў 40 старонак — «Песня на загонах». Вершы былі сродкам яднання з аднадумцамі, вясковымі бунтарамі і гарадскімі асветнікамі-адраджэнцамі. Сустракаўся паэт у Слоніме з Гальяшом Леўчыкам, з кс. Адамам Станкевічам. Апошні спытаў, ці не дакучаюць паэту ўлады. А. Іверс адказаў, што ходзіць у гарнізон рэгістравацца, апрацоўваецца гумовымі дубінкамі. Святар параіў яму: «Не трэба лезьці на ражон». А. Іверс згадзіўся, сказаў, што сам на ражон не лезе, але жыве ў рэвалюцыйнай вёсцы, дык не можа ўхіляцца ці ісці супраць грамады, якая змагаецца за волю. Салідарнасць, надзейнасць, вернасць— стрыжнявыя рысы натуры А. Іверса. Але яны ішлі ў яго не ад бязволля ці патрэбы прымыкаць да кагосьці дужэйшага, а ад пачуцця абавязку, сумленнасці, ад патрэбы браць сваю ношу пакут, каб чыстым было сумленне.

Знешне А. Іверс выглядае такім сабе статэчным гаспадарскім сынам, рухаецца спаважна, гаворыць доказна і не фарсіруе думкі высокімі абертонамі. Толькі паэзія выдавала яго лятунковасць і здольнасць творчага вобразнага ўяўлення.

Вершы А. Іверса 30-х гадоў каларытныя, поўныя зыркіх метафар і сімвалаў: расчуленасць чаргуецца там з грымотамі выбухаў, пырскамі металу, крыві. Усё гэта — сімвалічнае ўвасабленне барацьбы за вызваленне з-пад чужацкага ўціску, за ўз'яднанне заходніх беларусаў з усходнімі ў адзінай дзяржаве. Адсюль у вершах ўсходы сонца сімвалізуюць чаканне свабоды, трактары — веснікі лёгкай працы і заможнага жыцця без паноў.

А ўвогуле даверасннёўская паэзія А. Іверса лірычная, а не публіцыстычная, кранае яна арыгінальнай вобразнасцю: смелыя сімвалы мяжуюць з адкрытай, песеннай чуллівасцю і нават жальбою. Сутыкненні бязмежжа з утульнымі куткамі, касмічных шляхоў з вясковымі дарогамі — усё гэта надае малюнкам загадкавасць і прывабнасць. Творчая фантазія зухавата перастварае зялёную жывую прыроду ў каштоўныя ювелірныя кампаненты дэкору:

**Ці то песні ў пазалоце**
**На аўсянішчы густым!**
**Ці то вецер гай малоціць**
**Меддзю злітыя кусты.**

Паэт уяўляе сябе то вольным Ікарам сярод зор («І туды з арбіты зорнай я паклічу Беларусь»), то паняволеным Праметэем («Я век прыкаваны да хаты нядоляю нашай, як раб»). Па вобразным складзе гэта была паэзія заходнебеларускага неарамантызму, якая свабодна карысталася мадэрнісцкай вобразнасцю і фальклорна-традыцыйнай.

Верасень 1939 года прынёс А. Іверсу падарунак: запрашэнне працаваць у раённай газеце «Вольная праца», прафесіяналізавацца. Праўда, вершаў 1940—41 гг. ён не ўключае ў пасляваенныя зборнікі, відаць, таму, што паддаўся на спакусу каляндарнай хвалебнасці.

Паэзія ажывае ў гады акупацыі, калі бацькаў хутар на ўзлеску стаў прытулкам для акружэнцаў і мясцовых актывістаў — першых арганізатараў антыфашысцкага супраціўлення і партызанскай барацьбы:

**...Выплывае з добрай ласкі**
**Хутар (нервы прыбяры).**
**Не кулацкі—партызанскі,**
**Дзе збіраліся сябры.**

На жаль, хутар бацькаў стаў месцам трагедыі:

**Хата схілена, забыта**
**У шуме палыну.**
**Запрацованы здабытак**
**Вораг праглынуў.**

Вайна прайшлася па сям'і паэта з усёй жахлівай бязлітаснасцю. Слонімскае гестапа напала на след антыфашысцкага падполля ў горадзе, пачаліся аблавы, арышты. Папярэджаны А. Іверс уцякаў з жонкай, але не разам, а па адным, каб менш было падазронасці, а больш шанцаў ацалець. Ацалеў ён, а яе злавіла паліцэйская засада на бацькавым хутары, праз пэўны час злавілі і старога, адправілі ўслед за нявесткай у лагер смерці Калдычэва. А. Іверс астаўся адзіным прадстаўніком сям'і Дарафея Міско.

Хутар апусцеў назаўсёды. Паэту засталася адна балючая размова з роднымі ценямі. Што ж у ёй? Скруха, апраўданне, віна? Не, вернасць, пераконанасць, што і тое, што скончылася трагічна, выконвалася сумленна і было слушным, як само жыццё. Ніхто з людзей, якіх пасылаў на заданні старшыня падпольнага антыфашысцкага камітэта, не загінуў дарма цераз камандзірава легкадумства. Віною была здрада, інакш было нельга. Перакананасць у праваце справы, вернасць перажытаму, хоць трагічнаму, але слушнаму і дастойнаму па мэтах, вяртала ацалелым удзельнікам вайны пачуццё сумленна выкананага абавязку і права ганарыцца Перамогай, рабіла жыццё дастойным.

Менавіта ў пасляваеннай паэзіі А. Іверса ўсталёўваецца дамінанта красы як рысы чалавечага характару — надзейнасці, вернасці і маральнай чысціні. Гэтыя каштоўнасці прызваны пяднаць жывога ветэрана з роднымі магіламі, насамперш з ёю, ціхаю, маладою Верай, замучанай у Калдычэве:

**Далёкі лес—зялёны грэбень,**
**І пасмы хмарак залатых**
**На ранішнім прыгожым**
**небе, —**
**І ўсё глядзіш на золак ты.**

**Такою я цябе запомніў,**
**Такою ты тады была.**
**Нібы сама з тых яркіх**
**промняў,**
**Сягоння да мяне прыйшла.**

. . . . . . . . . . . . . .

**А я стаю ўсё на паверцы,**
**Як верны друг твой і салдат.**
**Заўжды ў маім збалелым**
**сэрцы**
**Гарыць агонь надзей і дат.**

Выхад з партызанскага стану — гэта праблема для многіх удзельнікаў. Лёгка ён даваўся хіба для тых масавых партызан, што прыйшлі ў атрады пад лета 1944 года, каб мець даведку, адчытацца перад савецкай уладай, якая насоўвалася, як тая хмара, ці разгнева-

**Міхась СКОБЛА**



## Стол Аляксея Пысіна

Стаіць у Барэйкаўшчыне, бы стод,
уросшы ў зямлю па пахі,
сівы Сыракомлеў пісьмовы стол,
падобны здалёк да плахі.
Ды не было ў ім нічога звыш,
а ліпла да рук жывіца.
Прыходзіў з суседняе вёскі віж,
каб вершамі пажывіцца.

На самы высокі Парнас ганцоў
заслаўшы, Пегаса — ў яслі,
святы і грэшны Міхась Стральцоў
дамройваў свой свеце ясны.
Нібы на печы ў старым хусці,
адтайвалі зябкія словы.
І быў
як з белай слановай касці
ягоны стол адмысловы.

Астатнія — мусілі хто на чым,
часцей — на дзяржаўных, з глянцам.
Хто ўдзень пісаў, а хто і ўначы,
хто ціха йшоў, хто — ў хамут б'ючы,
хто — класікам-самазванцам.

У Пысіна быў мармуровы стол!
Калі раскапалі ў спешцы
на магілёўскіх могілках дол
за некалькі дзён да смерці...

На сценах нябожчыцкай ледзяшы
і ў летні дзень, і ў зімовы.
А навакол — ні жывой душы!
Лякарня, дзякуй за ўмовы.

Глядзеў паэт на сырую столь
і бачыў у жыце пожні...
Ты не забудзь, калі ласка, стол,
той пысінскі верш апошні.

Высвечвалі вочы, бы іван-чай,
і тахкала сэрца нядрэмна,
а ў санітара і ў бывача
пытацца было дарэмна.

А стол, жыццё сваё кленучы,
прысесці прасіў галантна,
калі ў нябожчыцкую ўначы
заходзіла муза Данта,

заморскія скінуўшы пасталы,
схілялася над паэтам.

Рассыплюцца прахам усе сталы,—
не пагарджайма гэтым!

## Валошкі Валошыну

А. П. БУЗУК

Аблок атары ў горах бог пасе
ды, іншага не маючы на мэце,
з вяршынь цікуе, як мы там усе —
ані царквы вакол, ані мячэці.

А мора нанач мосціцца, пад спод
мяркуючы з садоў сцягнуць пярыну.
Язычнікі! Бо ёсць над бухтай стод —
ці не раўня славянскаму Ярылу!

Стаміўшыся ад шкодлівых атар,
прысядзе бог з задумаю на твары:
«Чаму вось так — дзе стод, а дзе — алтар!
Дзе моляцца, а дзе — кладуць ахвяры!»

Паломнікі, палоннікі нібы,
нясуць свае загадкавыя ношкі —
зялёныя каменьчыкі — абы
адзначыцца!
А хтось прынёс валошкі.

Задушна ім — палыннік без канца.
Ці вецер языком гарачым зліжа...
І ўспомніў бог прыезджага хлапца, —
яму таксама не хапіла крыжа.

І ўспомніў сінявокіх
бог зямлян,
бо гліну і для іх рука мясіла.
І расчытаў Гасподзь: Максі-мі-лян,
ўстаў і паліў
валошкі ад Максіма.

## Узнясенне Шагала

Марк Шагал паміраў у ліфце.
Без радзімы на старасць год.
Фарбавала ліфцёрша кіпці
і гартала часопіс мод.

Без радзімы. З кавалкам хлеба.
З клеткаптушкай. Без жаўрука.
Кнопку з надпісам простым «неба»
націскала яго рука.

Маляваў ён
не ў вазе лотаць
і не вулічную любоў,
ён вучыў чалавецтва лётаць,
з рук пускаючы, як галубоў!

На зямлі — адны каранціны,
мытні ўсюды, і не прасі,
каб вярнулі яго карціны.
І карціны—на небясі,

дзе прафесарам з добрым стажам,
расхінаючы бель аблок,
млечным шляхам, як Эрмітажам,
задуменна праходзіць бог.

Марк Шагал адчуваў, жывы шчэ,
калі ліфт набіраў разгон,
з шахты вырваўся на гарышча,
тросам сцёбнуты наўздагон!

Захлынаючыся вятрамі,
у бязважкасці ліфт павіс.
Яго столькі разоў вярталі
з паднябесся на самы ніз!

Расчыніліся самі дзверцы,
целу боязна ўслед ступіць —
не паспелі анёлы смерці
душу грэшную падхапіць.

Марк Шагал не паспеў памерці.
Бог агледзеў усё, як след,
і сказаў, нібы запавет,
каб на віцебскім
на мальберце
Марк змастачыў яго партрэт!

## Паэты

Пімену ПАНЧАНКУ

Шчыры пост
ці сцяжынка наўпрост
на гульбу, да Абрама на піва...
У паэтаў біблейскі ўзрост
на вякі.
А камусьці на дзіва.

Сапраўды,
ці палічым гады,
мы, прывыклыя, — мудрыя ў меру, —
мерацо век даўжынёй барады,
прапрапрадзеду ўсіх іх — Гамеру!

А мо не ў галаве,
у пустым рукаве
загаіўшы няўгойныя болькі,
ведаць, колькі Скарына жыве,
і Мікола, што з Гусава, колькі!..

Мусім
не разгубіцца зусім
і засведчыць, прыспешыўшы крокі,
што вядзе нас за рукі Максім,
каб на свет паказаць на шырокі.

Шлях, раўней,
і, палетак, руней,
і над кветкай няхай пчала ўецца...
А паэты старэюць раней,
чым астатняе ўсё чалавецтва.

Барані
ад ліхой бараны,
божа, душы іх — парасткі ў росах.
Ні калыскі у іх, ні труны,
толькі верш
на зямлі і ў нябёсах.

І адна
у паэтаў віна:
не ўміраюць і ў вечныя векі.
Ім гарэць ад цямна да відна,
ім пятак не закрые павекі.

Ім касмічныя чуць галасы,
ім нязменна
на лядах і галах
заставацца на ўсе на часы,
так, як профіль Валошына ў скалах!

**Барыс САЧАНКА**

# ЗАПІСЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ



## Словы не забыліся...

Ніхто так горача, да самазабыцця не любіў свой народ, як Янка Купала. Але ж, любячы, шануючы яго, захапляючыся, бачыў і адмоўныя рысы, слабасці. Неяк, зглададалы, зняверааны, амаль у адчаі, ён вымавіў словы, якія не забыліся ды, мабыць, і не забудуцца ніколі:

— Не народ, а гаўно. Столькі стагоддзяў чакалі паэта! Я нарадзіўся. І што? Пракарміць не могуць...

Не адзін беларускі дзеяч культуры ўспамінаў і ўспамінае гэтыя словы бессмяротнага Янкі Купалы.

Ды нічога не зробіш. Народ жа ў нас не чый-небудзь, а свой, беларускі. Які бог даў, такі ён і ёсць...

## Сон

У Саюзе пісьменнікаў абмяркоўвалі, варта ці не варта пераносіць прах Максіма Багдановіча з Ялты, дзе паэт памёр і дзе пахаваны, у Мінск. Выступалі многія, выступаў і я. Думка мая была гэтакая — каб сапраўды было вядома, што ў магіле, над якой стаіць помнік паэту, пахаваны Максім Багдановіч, то перанесці прах нават не варта, а трэба. Але ж, паводле ўспамінаў тых, хто ездзіў у дваццатыя гады ў Ялту шукаць магілу Максіма Багдановіча, устаноўлена фактычна толькі месца яго пахавання. Што ж да магілы... Пэўнасці няма. «Уявіце сабе, — казаў я, — раскапаем магілу, а там — сямідзесяцігадовая бабулька ляжыць... Разбурым жа казку, легенду... І што тады?.. Так хоць месца пахавання адзначана...»

Уночы пасля гэтага абмеркавання сасніўся мне сон. Здаецца, я стаю у Ялце на беразе мора, і да мяне ішоў юнак. У чорных штанах, белай, вышыванай васількамі, расхрыстанай на грудзях кашулі, падпаясанай чырвонай жычкай з кутасамі. Але не, блізка ён не падышоў. Спыніўся зводдалеку, глядзеў на мяне, і ківаў, ківаў галавою. Самотна, журботна. Урэшце, юнак сказаў з адчаем, горыччу: «Ты жыў на чужыне. А я... Памёр...»

І, як гэта часта здараецца ў сне, знік, быццам растварыўся, — быў і няма.

Прачнуўшыся, я доўга думаў, што значыць гэты сон.

Думаю пра гэта і цяпер.

## «Худая вша»

Андрэй Александровіч нарадзіўся ў Мінску ў рабочай сям'і, і ў сваіх творах ухваляў усё, што ні рабіла Савецкая ўлада — яна ж была рабоча-сялянская. І таму, калі пачаліся ў Беларусі рэпрэсіі, ён не падпаў пад іх. Наадварот, ім садзейнічаў, дапамагаў знаходзіць тых, хто яшчэ быццам прытаіўся ці «прымазваўся» да «пераможнага поступу сацыялізма» — «поспехаў калектывізацыі і індустрыялізацыі», бязлітасна выкрываў іх у сваіх артыкулах, вершах, паэмах. Вядома ж, і «рос» — атрымліваў новыя і новыя пасады, званні — намесніка старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў, члена-карэспандэнта Акадэміі навук, члена ЦВК БССР, кандыдата ў члены ЦК КП (б) Беларусі...

І раптам, калі, здавалася, Андрэй Александровіч быў на самай вяршыні славы, яго арыштавалі... За што? Ды быццам за верш, які напісаў, будучы зусім маладым у пачатку дваццатых гадоў. Верш як верш, ён услаўляў Чырвоную Армію і таму перадрукоўваўся ў розных чытанках. І ніхто да пары і часу не бачыў, што гэта акраверш — першыя літары радкоў утваралі любімы выраз Андрэя Александровіча — «худая вша».

Сын паэта пасля ўжо смерці бацькі даводзіў не аднаму мне, што гэта не Андрэя Александровіча акраверш, што яго напісалі і надрукавалі за прозвішчам бацькі яго непрыяцелі. Хто ведае, можа, і праўда. Бо Андрэя Александровіча многія не любілі. Апавядаюць: калі ён вярнуўся па адбыцці кары ў 1947 г. у Мінск і паставіў пытанне аб аднаўленні ў правах члена Саюза пісьменнікаў, Янка Маўр сказаў: «Мы ж толькі і жыць пачалі, калі цябе забралі... А цяпер ты зноў з'явіўся, зноў-захочаш барацьбу з усімі весці...»

І не аднавілі тады Андрэя Александровіча ў правах члена Саюза пісьменнікаў...

## Роднае

— Па выхаванні я інтэрнацыяналіст, — гаварыў вядомы ў рэспубліцы мастак-керамiст Сямён Саўрыцкі, калі мы з ім пазнаёміліся. — Для мяне, як і многіх беларусаў, сваё роднае, нацыянальнае быццам не існавала, не засяроджваў асабліва на гэтым я ўвагі. Прынамсі, да аднаго выпадку. Наладжвалася выстаўка беларускага мастацтва ў Якуціі. Некалькі маіх прац — гладышоў, варэек, куфляў, глякоў, чарак, свісцёлак — таксама ўзялі на яе. Запрасілі паехаць туды і мяне. Ніколі я не быў у Якуціі, дай, думаю, з'езджу... Не скажу, каб нечым уразіла мяне тая выстаўка. Ды і сама Якуція. Але адзін эпізод, што адбыўся там, перавярнуў усё маё ўяўленне аб мастацтве. Стаяў я ля сваіх вырабаў, апавядаў пра іх, адказваў на пытанні. І вось падыходзіць да мяне зусім стары чалавек. Было яму гадоў дзевяноста, а можа, і болей. Ён быў не адзін, а з дачкою, таксама ўжо старой жанчынай. Убачыў зробленыя мною гладышы, глякі, варэйкі, куфлі, чаркі, свісцёлкі, і як бы анямеў. А потым раптам заплакаў, заліўся слязьмі. Ледзь супакоілі мы яго разам з дачкою. Аказалася, сам гэты стары родам з Беларусі, быў высланы ў Сібір, там, можна сказаць, пражыў усё сваё свядомае жыццё. Зусім забыў Беларусь... А ўбачыў мае вырабы — і ажыло роднае, тое, чым жыў у дзяцінстве,— хата, двор, бацька, маці, гладышы і глякі, з якіх калісьці піў малако, бярозавік... Так узяло старога за душу, што ён і назаўтра, і напаслязаўтра прыходзіў на выстаўку. І чаго толькі не расказваў, чаго не ўспамінаў!.. Я, як зачынілася выстаўка, аддаў яму свае вырабы. Бачылі б вы, як радаваўся ён, як мне дзякаваў. Аж рукі цалаваў! А ў мяне пасля гэтага і думка ўзнікла: «Ёсць усё ж нешта нашае, беларускае, што належыць толькі нам і больш нікому, што нікога так не хвалюе, як саміх нас, беларусаў». І з таго часу толькі на роднай мове пачаў размаўляць, па вёсках ездзіць, шукаць усяго свайго, што яшчэ не загінула, засталося. І ўсё гэта ўзнаўляць, ляпіць у гліне. І, ведаеце, мяне за гэта палюбілі не толькі ў Беларусі, але і далёка за межамі, бо, як выявілася, таго, што ёсць у нас, нідзе больш няма... І яно не толькі ў назвах, але і ў формах, у метадах апрацоўкі матэрыялу, у змесце, прызначэнні кожнай рэчы. І ў гэтым — сваім, нацыянальным, беларускім — я, як цяпер разумею, цікавы, патрэбны многім...

## Гарбуноў і скверык імя Янкі Купалы

Калі на Цэнтральнай плошчы ў Мінску быў пастаўлены манумент І. В. Сталіну, кажуць, сакратар ЦК Кампартыі Беларусі па ідэалогіі Цімох Сазонавіч Гарбуноў на адным з пасяджэнняў бюро ўнёс прапанову—высечы ў скверыку імя Янкі Купалы дрэвы, бо, маўляў, яны замінаюць з Дома ЦК бачыць Сталіна.

І дрэвы, якім не па адным дзесятку гадоў, — будзьце ўпэўнены!—былі б высечаны, калі б неўзабаве не адбыўся XX з'езд партыі, не пачалося выкрыццё культу асобы...

Бачыў я, сустракаў Цімоха Сазонавіча потым, калі ён ужо быў на пенсіі, у тым самым скверыку—ён сядзеў на лаўцы пад дрэвамі. Адпачываў. І падумаў быў я тады: «Добра, што адбыўся гэты з'езд і выратаваў многае і многіх, у тым ліку і скверык імя Янкі Купалы. Інакш бы і мінчанам, і самому былому сакратару ЦК нават пасядзець не было б дзе...»

— Але гэта, мовім так, святая справа Купалаўскага тэатра...

**— Але немагчыма сённяшняму Купалаўскаму тэатру належным чынам заняцца Купалам — хто ім будзе займацца? Няма ў нас па-добраму «звар'яцелага» на геніяльным чалавеку даследчыка...**

— І — грошай. А вось для свайго больш сціплага праекта ў Коласаўскім тэатры я сёетое знайшоў. Як бы ні банальна гучала, але я вельмі хачу, каб на тэатральныя спектаклі людзі ішлі ў вячаровых строях ды з вячаровым настроем... Такая публіка ў Віцебску ёсць. І я не магу кідаць папрокі тым, хто часова забыўся на тэатр, людзі вымушаны размаўляць пра каўбасу ды спажываць яе, калі нічога іншага не прапануецца. І не трэба людзей гэтай каўбасой ушчуваць: трэба толькі даваць ім магчымасць думаць яшчэ пра нешта іншае. Пра прыгажосць, пра адвечнасць, пра класічнае слова. Дарэчы, перадусім Гомельскі агляд прадэманстраваў зайздросную незапатрабаванасць «лапцюжнага» тэатра; глядач хоча глядзець на мысляра, на інтэлектуала, а не на дурня-беларуса ў аперэтачна-вадэвільнай сервіроўцы. Хоча адухоўленасці, якой тэатру якраз бракуе. А пачаць хацеў бы са спектакля паводле Максіма Багдановіча,— з ягонымі думкамі пра слугаванне найпрыўкраснаму і далучэнне да думкі сусвету... З Аляксея Дударава і ягонай новай п'есы паводле Міколы Гусоўскага. Божа, як жа не засмакаваць роспачы, ведаючы пра тысячы розных абставін збоку, якія палову жыцця прымушаюць разменьвацца й мяняцца! Я не лічу, напрыклад, «Знак бяды» ў Рускім тэатры разменаю, альбо «Царства зямное» Т. Уільямса (якое чамусьці нікога не цікавіла і білеты на якое не разыходзіліся), а мены-размены — гэта ж таксама пазіцыя мастака! Але цяпер я думаю, што сорак дасведчаных гледачоў — лепш за паўнюткую залу малазацікаўленых тэатрам людзей.

**— Але што б цяпер ты мог сказаць пра Коласаўскі тэатр, абапіраючыся на Гомельскі агляд?**

— Міла, але як паўсюль. З Віцебска прывезлі «Залёты» В. Дуніна-Марцінкевіча, дзе акцёры добрасумленна выконвалі рэжысёрскія задачы, ды музычнае вырашэнне У. Кандрусевіча вызначыла тое, што мелася вызначыць.

**— Але, працягваючы тэму Гомельскага агляду, будзем лічыць, што «ЛіМ» (ці не ўпершыню) вытрымаў эфектную паўзу — дзеля таго толькі, каб спраўдзіць сваю задачу, а менавіта падаць меркаванні пра агляд «з сярэдзіны»,—ад арганізатараў ды мастацкага кіраўніка... Па-рэжысёрску: пра скразное дзеянне ды звышзадачу.**

— Мой погляд «з сярэдзіны»? Скразное дзеянне — як дыяграма, скакала, скакала, і скачок ад верхняе кропкі да дольнай — ад маёй чарговай надзеі да чарговай роспачы, да жадання кінуць гэты пачварны тэатр і прафесію. Ад «Божухна, які выбітны артыст» да «Халера, якая рэжысёрская бяссэнсіца», альбо — адкрыццё, як са спектаклем Мікалая Пінігіна «Дзіця з Віфлеема». Я глядзеў яго папярэдне на пляцоўцы тэатра-студыі кінаакцёра і ніякавеў: навошта цудоўны рэжысёр падаўся ліквідаваць усеагульна-тэатральную непісьменнасць? Але я паглядзеў яго ў Гомелі — у іншых абставінах, з іншаю звышзадачаю,— і раптам (скуль?!) з'явіўся той дух ды тая святасць, дзеля якіх і разыграваліся гэтыя маленькія біблейскія гісторыі! Для мяне і цяпер, як задумаюся пра рэальнасць — роспач, а як згадаю перспектыву 1994 — спадзяванне... Трэба працаваць і не дазваляць сабе быць такімі, як сёння. Не проста не даходзіць да роспачы, але не паўтараць свае прыёмы, не збівацца на прымітыў (я ў даным выпадку не пра стыль),—трэба змяніцца ў сваім выніку!..

**— Вось і добра. Як будзем мяняцца?**

— Скажу шчыра, што ўзровень навукова-практычнай канферэнцыі Гомельскага агляду — гэта таксама... агляд для крытыкаў. Для людзей, якім проста наканавана высвятляць, аналізаваць, радзіць... Дык вось, выключэнняў з агульнага мілага ўзроўню амаль не здарылася. Як ні дзіўна, але менавіта Віктар Навуменка, крытык, якога вінавацяць ва ўсіх благіх думках пра Купалаўскі тэатр — ягоны добразычлівец! Ён можа быць катэгарычным (гэта стыль ды характар), але чаму ніхто не чуе, што ён кажа? А думка ў Навуменкі слушная: сёння тэатр ставіць усё, што... трэба. Альбо можна. Вось можна пра «Тутэйшых» — ставяцца «Тутэйшыя», а заўтра яшчэ што-небудзь можна будзе...

**— Гаворка пра тое, што тэатр мусіць апярэджваць самога сябе?**

— А ўсіх мусіць апярэджваць тэатральная крытыка. А ў нас такія круглыя фразы, такі нейтральны тон! Гэта — стыль? Школа? На сённяшні дзень — гэта становішча! Як пачаць з добразычлівае праўды? Маўляў, вось ты куды мусіш выйсці, будуючы, а табе не хапае тут — моцы, тут — прыёму, тут — пэўнасці... Дапамагчы, а не вінаваціць у шэрасці!! Пасля самых страшных абвінавачванняў ставіць коску, і разам стырнаваць. Вось толькі — куды? І адказваць на гэтае пытанне трэба будзе ў хуткім часе.

# УЯЎНЫЯ ГУТАРКІ СА ЗНАЁМЫМІ БЕЛАРУСАМІ

Адзін мой знаёмы, добры хлопец і цвёрды нацыяналіст, пры нашых размовах аб рэлігійнай сітуацыі на Беларусі заўсёды рабіў такую выснову: «Не люблю я гэтых папоў». Калі я аднаго разу не вытрымаў, спрабуючы цярпліва распавесці пра тыя нацыянальныя працэсы, якія зараз праходзяць у рэлігійным асяродку, і запытаўся наўпрост: а што, ксяндзоў Адама Станкевіча, Казіміра Стаповіча, Вінцэнта Гадлеўскага, айца Аляксандра Каўша таксама? Мой знаёмы завагаўся, бо добра ведаў пакутніцкі шлях гэтых святароў, іхняе значэнне для беларускага нацыянальнага руху, для нашае культуры. «Ну дык што, ты любіш ці не любіш іх?» — працягваў я наступаць. «Люблю, люблю», — цяжка ўздыхнуўшы, мусіў прызнацца ён.

●

**Яшчэ адзін мой знаёмы, гісторык па адукацыі, рэзка выступіў у друку супраць перадачы вернікам царкоўных і касцельных будынкаў, у якіх размяшчаюцца ўстановы культуры, сам прызнаўшыся пры гэтым, што ён толькі як пахрысціўся. «Добра, — спытаўся, сустрэўшы яго, я, — якія мэты ставілі камуністы, размяшчаючы ў гэтых будынках музеі і бібліятэкі?» Знаёмы гісторык меў аналітычны склад розуму і таму, доўга не думаючы, выдаў: «Па-першае, не трэба было распускаць грошы на будаўніцтва, па-другое, культура рэлігійная падмянялася культураю сацыялістычнаю проста, як кажуць, не адыходзячы ад касы». «А што мелі на мэце камуністы, размяшчаючы ў такіх жа будынках заводы, крамы, рэстараны?» — працягваў дапытвацца я. «Ну, ты, знайшоў што параўноўваць». — пакрыўдзіўся мой знаёмы, бачачы, куды я хілю. «Хіба заводы нам менш патрэбныя, чым бібліятэкі, а крамы — менш, чым музеі? Чаму адны трэба аддаваць, а другія не?— спытаўся я ў яго. — Ці выпівон пад плотам будзе спрыяць нашай агульнай культуры?» «Так, — падумаўшы, пагадзіўся гісторык, — адлегласць ад музея ў царкве і да рэстарана ў касцёле меншая, чым можна ўявіць».**

●

Сведамыя гісторыкі і археолагі амаль усе балесна перажываюць перадачу бажніц вернікам, якія пры камуністах былі прыстасаваны пад установы культуры. Шмат сіл і энергіі яны ўклалі, бароначы апусцелыя і зачыненыя пад прымусам бажніцы ад тупагаловых герастратаў з партыйным квітком у кішэні. Для гэтага даводзілася ісці на шматлікія хітрыкі. Нашы гісторыкі і археолагі так шчыра пераконвалі начальнікаў у тым, што гэтыя муры ўжо не опіумныя плантацыі для народа, а помнікі культуры і архітэктуры, што, здаецца, і самі паверылі ў гэта. І зараз яны крыўдзяцца, як дзеці, бачачы, што ў нейкім сэнсе «іхнія» ўратаваныя будынкі пачынаюць жыць іншым жыццём. Што можа быць бліжэй да сэрца гісторыка за добры музей, дзе ўсё мае свой парадак, логіку і сэнс? Дзе сама бажніца стварае адпаведную атмасферу і настрой?

Аб'ектыўна кажучы, прафесія археолага спрые развіццю такіх якасцяў, як практыцызм і мэтазгоднасць, а непасрэднае судакрананне са шматлікімі ранейшымі пахаваннямі, варушэнне гэтых людскіх касцей — і стабільнай духоўнай ураўнаважанасці. Гэта, здаецца, і замінае некаторым з іх убачыць у касцёле ці царкве не толькі «архітэктуру», але й Дух, без якога гэтыя муры «не працуюць». Урэшце, не ўсе яны такія, а толькі самыя лепшыя, што, як і кожныя заўзятары, бачаць толькі сваю справу, а астатняга і бачыць не хочуць.

●

**З крыўдаю распавядаў адзін гісторык, як доўга яны шукалі прыстасаванне для Чырвонага касцёла ў Менску, і якія радыя былі, калі пасадзілі туды Дом кіно, бо гэтым фактычна выратавалі бажніцу. «А затым, пасля таго, як мы выратавалі яго,— працягваў ён, — прыйшлі вернікі і наладзілі сапраўдны штурм гэтага нашага нацыянальнага асяродку і выкінулі Дом кіно з касцёла». «Нацыянальны асяродак быў там, калі працавалі ў Чырвоным касцёле ксяндзы Гадлеўскі ды Глякоўскі, а па іхняй смерці Шутовіч, — адказаў я. — Вось тады ён там і быў. А калі гэтая кіношніцкая рознапляменная брація сядзела з прастытуткамі ў закрыстыі і хлябтала каньячок, дык гэта нейкі дзіўны нацыянальны асяродак. Менавіта такі, які жадалі мець нашы старыя сябры камуністы. Шукайце яго зараз на берагах Нявы і Іардана. А, можа, таго жадаў спадар Вайніловіч, які адбудаваў гэты касцёл у памяць па сваіх памерлых дзецях? Гэтыя, у закрыстыі, іхнюю памяць запівалі, ці што?»**

**І слушна я як быццам сказаў, але, бачу, усё-роўна крыўдна чамусьці майму знаёмаму гісторыку і ўсё тут.**

●

Шкада аддаваць бажніцы і Міністэрству культуры. Праўда, у яго ўжо іншы інтарэс — уласніка. Цяжка развітвацца з будынкамі, якія за столькі гадоў сталі ўжо як бы роднымі. Міністэрства бачыць у іх найперш матэрыяльную каштоўнасць. А хто ў цяперашні няпэўны час добраахвотна развітваецца з нерухомай маёмасцю? Урэшце, аддаўшы не сваё, якое ўжо стала як бы сваім, трэба ламаць галаву, а куды ж падзець гэтыя музеі і дзе ўзяць новыя канцэртныя залы? Толькі хацелася б спытацца пра ўзровень маральнасці, які мае культура, што размясцілася ў захопленых у свой час гвалтам бажніцах. Нашы суседзі-летувісы добра зразумелі гэта.

Некаторыя з дэмакратычна настроеных палітыкаў-дэпутатаў дапамагаюць Міністэрству культуры «бараніць» беларускую культуру ад «фанатыкаў». Але, падаецца, ідзе знаёмая гульня, бо гэтыя дэпутаты міргаюць адразу двума вачыма. Адным вокам мінкульту, а другім — вернікам. Адразу згадваецца, між іншым, п'еска Францішка Аляхновіча «Пан міністр».

●

**Не так даўно адна мая знаёмая параіла мне — «Адкупіцеся вы ад іх, дайце ім хабару, грошай, яшчэ чаго-небудзь, адкупіцеся і ўсе тады будуць задаволеныя. І ўсё тады будзе добра».**

●

Яшчэ адзін мой знаёмы, выступаючы на святочнай вечарыне, казаў гэтак: «Беларусаў лічаць усе такімі рахманымі», і распавёў показку, як адзін беларус, пусціўшы гасцей у хату, прасіўся ў іх пераначаваць пад лаваю. «Дык вось, — працягваў ён, — мы не заўжды былі такімі. Калі прыходзіць вызначальная часіна, мы павінны дзеяць хутка і рашуча. І ўсё тады будзе добра».

●

**Яшчэ адзін гісторык спачатку асцярожна, а потым і наўпрост упікнуў мяне: «Вось ты працуеш у сістэме культуры. Табе не трэба тлумачыць, што такое культура нашага народа, але ж думкі твае...» Памятаю, што ён яшчэ згадаў нешта пра траянскага каня. Я яму адказаў, апраўдваючыся, што ў свеце ёсць розныя чыны музеефікацыі аб'екта. Лепшы з іх, на мой погляд, калі максімальна ўзнаўляецца ягоная ранейшая функцыя. Калі рэстаўруецца тэатр, — значыць, гэта мусіць быць дзеючы тэатр, а не простыя дэкарацыі. Калі ратуша — значыць, там мусіць засядаць гарадская рада. Тое ж і з касцёлам. Што можа быць больш каштоўнае для нашай культуры за старую бажніцу, якая жыве сваім спрадвечным, тысячу гадоў таму вызначаным жыццём? Ды пасадзі ты туды што хочаш, усё-роўна яна не ажыве, пакуль там не з'явяцца людзі, для якіх гэтыя муры — не проста цэгла, складзеная ў адпаведным парадку.**

●

Адзін мой знаёмы мастак зрабіў гэткую выснову: «Арганная зала, арганная зала! Хіба нармальны беларус можа быць супраць беларускага касцёла, супраць беларускай дзіцячай школкі? Ды гэта ўсё жыды. Сапраўдны беларус не можа быць супраць».

●

**«Што вы, беларусы, усё цацкаецеся з гэтым касцёлам? Палякі даўно б ужо навялі там парадак», — сказаў мне адзін знаёмы атэіст, маючы на ўвазе тых менскіх каталікоў, якія лічаць сябе палякамі. «Мы імкнёмся цывілізавана вырашыць гэтую няпростую праблему», — казённым стылем сказаў я яму праўду. «Ну і што, атрымліваецца?» — пацікавіўся ён. «Ні халеры», — ужо простым стылем адказаў я яму.**

●

Адзін дэпутат менскага гарсавета, які ўпарта не мяняе свой стары чырвона-зялёны значок на значок новага ўзору, сказаў неяк мне: «Носіцеся вы з гэтай рэлігіяй, касцёламі, цэрквамі, на халеру вам гэта ўсё патрэбна, мазгі затуманьваць простаму чалавеку». Я быў рады ягонаму адказу. Значыць, усё робіцца слушна.

**Алесь БЯЛЯЦКІ.**

ўнукаў нават і размовы няма—яны амаль усе сталі англічанамі, амерыканцамі, французамі... Так што пра зварот іх на Радзіму сваіх бацькоў, дзядоў—слабая надзея. І калі беларуская мова і ажыве на Беларусі, дык не дзякуючы эміграцыі, а дзякуючы Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, Алесю Гаруну, Максіму Гарэцкаму... Ды і тым, хто не цураўся яе, размаўляў, пісаў на ёй у самыя неспрыяльныя часы, хто, нягледзячы ні на што, нікуды не з'язджаў, не пакідаў роднай зямлі, жыў, працаваў на ёй, вучыў сваёй мове дзяцей, унукаў... Ды і абараняў роднае слова пры кожным зручным і нязручным выпадку...

І калі кланяцца каму, дык давайце паклонімся народу свайму, лепшым сынам яго, якія, на наша шчасце, заўсёды ў нас былі і ёсць...

## Адзінокі журавель

Неяк увосень, будучы ў грыбах, стаялі мы з Максімам Лужаніным у лесе на ўскрайку вялікай паляны, і раптам нечакана пачулі крык жураўля. Адзінокі, адчайдушны. Вочы міжвольна падняліся да неба. Так, там, высока-высока, плыў жураўліны клін. Вёў яго вопытны важак, а ўсе астатнія, выстраіўшыся і злева і справа двума роўнымі ланцужкамі, ляцелі паўзбоч. Той жа, што адчайдушна крычаў, быў не з усімі разам, а дзесьці нізка над лесам, здавалася, зусім блізка ад нас.

Максім Лужанін, паглядзеўшы на мяне, сказаў:

— Я—як той журавель. Хачу быць з вамі, маладзейшымі, а моцы, дужасці ўжо няма... Стаптаўся за свае восемдзесят гадоў... І душа мая гэтак жа крычыць ад бяссілля і тугі...

Памаўчаўшы ж, дадаў:

— Нядобрая гэта прыкмета... Відаць, апошні раз праводжу ў вырай журавоў...

І на шчокі яму з вачэй выбеглі дзве слязінкі...

У небе ж высока-высока плыў жураўліны клін, адтуль далятала лёгкае, як бы прыцішанае і трывожнае курлыканне. І чуўся, рваў і рваў душу той адзінокі і адчайны крык абяссіленага ці пакрыўджанага богам жураўля.

І нават калі схаваўся клін, сціхла, не далятала больш з паднябесся курлыканне, крык той—жаласлівы, адчайны—доўга яшчэ не змаўкаў...

Ён і цяпер у маіх вушах...

**МУЗЫКА**

## Азваўся Мікола Стома

Ён быў студэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (клас Д. Смольскага), калі ягонае імя ўпершыню з'явілася на старонках «ЛіМа». У ёмістым аглядзе набыткаў беларускіх кампазітараў добрымі словамі быў памянёны самабытны твор М. Стомы для дзвюх флейтаў «Повязі», прысвечаны З. Пазняку. Ішоў 1988 год, і з мастацкімі пошукамі маладога аўтара, які спавядаў, яшчэ не ўвайшоўшыя ў разрад кан'юнктурных, ідэі нацыянальнага адраджэння, звязваліся надзеі на новы яркі ўток у беларускую прафесійную музычную творчасць. Але неўзабаве М. Стома... знік. Кампазітарскім «тусоўкам» прыкметна бракавала яго каларытнай постаці, аматарам беларускіх музычных навінак — яркіх, часам эпатажных творчых ідэй. Казалі: «З'ехаў вучыцца ў Польшчу». Потым азваўся: у філармані́чную канцэртную праграму Асацыяцыі сучаснай музыкі быў уключаны ягоны твор «Строфы». А нядаўна, з гутаркі ў 8-м нумары «Нашай Нівы» (1992 г.), мы даведаліся сёе-тое і пра цяперашняе жыццё кампазітара. Ён працягвае ствараць элітарную музыку, прыахвоціўся пісаць на камп'ютэры. Пачуваецца на сто працэнтаў палякам і на сто працэнтаў беларусам і яшчэ напалову літоўцам. Пасля Варшавы, дзе навучаецца ў Музычнай акадэміі, мяркуе вярнуцца на Віленшчыну, дзе жывуць бацькі. Хацеў бы арганізаваць у Віленскай кансерваторыі курс камп'ютэрнай музыкі, куды маглі б накіроўваць для навучання кампазітараў з Беларусі. Займеў уласную сям'ю...

**Н. К.**

УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

Віктару Слінко 20 гадоў. Закончыў сярэднюю школу № 53 беларускай сталіцы. Зараз займаецца на чацвёртым курсе Мінскага педінстытута.

Сёння штотыднёвік друкуе яго першыя вершы і версэты.

Віктар СЛІНКО



## Пчалы пачатак — мой...

...Але ў глыбіні існавання пчалы
тоіцца плач.
А. РАЗАНАЎ.

Начная зорка дагарае ў небе,
А зорка дня запаліць небакрай.
Начная зорка — ты не дагарай,
Ты не згарай — тады не развіднее.

І будзе ноч, пакуль ты льеш святло,
І буду я—пакуль не згаснеш ты.

А пчолы плачуць...
Святло далёкай зоркі
Іх будзіць, пранікаючы
У вулей.
Бо зоркі — гэта кветкі, на якіх
Пчалы ніводнай... А нектару шмат.

А душы пчол загінуўшых ляцяць,
Ляцяць да зоркі—да духмянай кветкі.
Але нектару не збіраюць душы.
І душы клічуць — тых, хто на зямлі
Ляцець туды — ляцець збіраць нектар.

А пчолы плачуць: толькі пасля смерці.
А пчолы плачуць: моцы не стае.

Пчалы пачатак — мой.
А чалавечы — пчол.

Начная зорка дагарае ў небе.
І з гэтай зоркай дагараю я.

●

Спявае дзяўчына з чорнай касой.
Амый яе, ранак, чыстай расой.
Хай песня, як промень,
мне дорыць святло...
І боль, які быў,
як рукою зняло.

І вабяць ізноў да сябе ручаі,
І сонца у небе, і дрэвы ў гаі...
Спявае дзяўчына... Паклікаць яе!
А можа, пакліча яна да сябе!..

## Маёй матулі

Мяне бяда шукае,
Бо я яе чакаў.
Мяне бяда гукае.
Ды я маўклівы стаў.
Адчуў я подых згубы
На стромкай вышыні...
Я маці роднай любы!
Мне трэба цеплыні!

І зноў тваё каханне
Мне дорыць адкрыццё:
Яшчэ не час растання,
Не час губляць жыццё.

## Кветка

Кветка уночы закрыта,
Кветка уночы забыта.
Кветка свае летуценні
Хавае пялёсткаў адзеннем.

Глядзіце на кветку уночы
Пакуль не прытомяцца вочы.
Аддайце вы ёй пацалунак,
Яна вам — ад смерці ратунак.

Што ведама ёй — не раскажа,
Куды нам ісці — не падкажа.
І бездапаможна ў маўчанні,
Як людзі ў апошнім каханні.

●

Смак мёду на губах тваіх — імя тваё.
Без зроку бачыў бы і без слыху чуў бы
Адну цябе, каб толькі ты была.
І шанаванне, дрогкае ў малітве:
Жаданая, каб толькі ты жыла!..

Мая малітва сёння — назаўжды,
Бо адцвіла дзяўчына ў гэты дзень.
...І карагодам на зямлю злятала
І так павольна ападала долу
Чаромха, быццам плацце, у якое
Нявеста не хавала белых плеч.

## Не было...

Полымем запалюся,
Полымем запалюся,
Полымем запалюся —
на зямлі на роднай
да крывіначкі згару.

Белай птушкай з'яўлюся,
Белакрылай з'яўлюся,
Белай птушкай з'яўлюся
І ўпаду на правады
І адразу запалюся...
Адлятаю
немаведама куды.

Людзі скажуць — не было мяне,
Людзі скажуць — ім здалося:
Толькі полымя мільгнула,
Толькі белае крыло...

●

Гарбата ў шклянцы. Шклянка на стале.
А веданне дае спакой душы.
Я ведаю, калі мне стане дрэнна.
Я ведаю, калі.

Жывуць расліны коратка ці доўга,
А ўсё адно вада патрэбна ім.
Я не разлічваю наперад,
Што там будзе — у жыцці маім.

Я п'ю гарбату.
Моліцца душа...
Не схаладзець бы назаўсёды мне
да ранку.
Але гарбата не дае забыць
пра веданне маё.
Я ведаю, калі мяне не стане.
Я ведаю, калі.

# ЧАЛАВЕК, СВЯТЛО ДУХОЎНАЕ

(Пачатак на стар. 5).

А чаму так? — спытае мой затурканы сучаснік, якому ўжо абрыдла чакаць канца гэтым усім «перабудовам», палітычным «выбухам», і які чакае спакойнага, годнага жыцця ў канцы XX ст. Трэба добра ўявіць сабе, што ён мае права на такое жыццё, уключаючы праславутую «каўбасу» — жупел сучаснай публіцыстыкі. І аўтар, калі ён хоць у невялікай ступені лічыцца філосафам, павінен растлумачыць яму гэта. (Дарэчы, бытуючы ў філасофскіх колах жарт вымаўляе, што К. Маркс таму і пачаў рэвалюцыйна пераўтвараць свет, што не здолеў растлумачыць яго).

Таму і толькі таму неабходна святло духоўнасці, што толькі яно стварае «другую прыроду» — культуру і цывілізацыю, без якой чалавек і да гэтага часу заставаўся б неандэртальцам. Гэта вольны дух чалавечы параджае творчасць, ён як галоўны «вірус» стваральнасці. Безумоўна, стваральны пачатак у чалавека можа быць накіраваны і на разбурэнне (гэта праблема супярэчлівасці носьбітаў чалавечага духу, як адзначаў Т. Ман). Але ў станоўчым сваім выглядзе (і лепш за ўсіх мяне тут зразумее вернік, які гэтую стваральную станоўчасць будзе весці ад Боскага, і я з ім згаджуся, маючы на ўвазе вынік, які тут важнейшы за ўсё) — гэты творчы пачатак апладняе ўсю нашу зямлю і менавіта ў вышэйшым сэнсе чалавечага жыцця.

Тут я зноў рашуча адвяргаю прапазіцыю, прапанаваную В. Акудовічам, калі ён піша: «Шматлікія спробы на падставе сутнасці чалавека вызначыць ягоны сэнс не могуць весці да поспеху, бо немагчыма знайсці тое, чаго няма». Ён спасылаецца на экзістэнцыялісцкую лінію ў філасофіі, але і гэтая спасылка некарэктная, таму што чалавечая асоба ў сістэме гэтай філасофіі амаль адзіная відавочная каштоўнасць. Іншая справа—сувязь з іншымі асобамі. А можна ўвогуле і вельмі проста адказаць людзям, якія ўсур'ёз прымаюць канцэпцыю «бяссэнсавасці» жыцця чалавека—адказаць мудрымі словамі Роберта Бёрнса. Калі вялікага шатландскага паэта спыталі, што чалавек пакідае пасля сябе, ён адказаў: «Справы свае і дзяцей сваіх». Гэта і на самай справе так: толькі застаецца маліцца, каб у справах было больш працэнтаў чалавечай творчасці і тады яны застануцца на гады, і яшчэ каб дзеці не сапсавалі, не зганьбілі добрае імя бацькоў. Адным словам, я застаюся прыхільнікам знакамітага выразу майстра трагедыі старажытнай Грэцыі Сафокла: «Шмат ёсць цудаў на свеце, але цудоўней за чалавека няма на свеце нічога».

Таму што сапраўдны чалавек—гэта перш за ўсё творца; ён соль зямлі, ён цікавейшы феномен на свеце, з ім усё цікава: адпачываць, працаваць, жыць... У канцы XX стагоддзя ў практычнай сферы разумення праблемы чалавека здараліся значныя перамены. На агульначалавечым узроўні была ўсвядомлена ідэя неабходнасці павышэння культуры самасвядомасці асобы. З асобных прац філосафаў і псіхолагаў (тут выдзяляецца асабісты ўклад Карла Г. Юнга) паняцце самасвядомасці асобы замацоўваецца ўжо ў міжнародным праве. Так, згодна меркаванню папы Рымскага Іаана Паўла II, хрысціянская рэлігія — «родная мова ўсіх еўрапейцаў, якая ў далейшым нарадзіла яшчэ адну гаворку—мову правоў чалавека». Падкрэслім прытым, што Іаан Павел II неаднаразова выказваўся за захаванне правоў нацый, нацыянальных меншасцяў на развіццё сваёй мовы і культуры.

Я лічу такі падыход канструктыўным. Правы чалавека, асобы ляжаць у адной плоскасці з правамі народа, этнасу. Яны так цесна звязаны адзін з адным—чалавек і этнас, народ. Нездарма ў адной з цікавейшых дактрын аб паходжанні і жыцці этнасаў, якая належыць выдатнаму навукоўцу Л. Гумілёву (сумна ўсведамляць. што ён нядаўна пакінуў нас), асобная і вызначальная роля аддадзена якраз творчаму чалавеку — пасіянарыю. Ад колькасці пасіянарыяў залежыць энергія этнасу, ягонае здароўе, ягоная моц. Не будзем тут спрачацца з сапраўдным навукоўцам (хаця ёсць і ў чым запярэчыць і што скарэкціраваць у сістэме ягоных ідэй), але тут ён, безумоўна, мае рацыю: дзіўным чынам, але і ён сцвярджае прыярытэт духоўнасці чалавека, як неабходную падставу для гарманічнага жыцця этнасу. Калі б у сумеснае звесці лепшае, што ёсць у носьбітаў і асабовасці і этнічнасці—у творчых, духам напоўненых людзей,—тады б расквітнела зямля. Побач яны, побач—сферы жыцця і дзеяння чалавека і этнасу. Сакральныя, свяшчэнныя правы ў свеце таго і другога. І ўсё ж перавагу, у рэшце рэшт, кожны сумленны чалавек (калі, не дай Бог, прыйдзецца рабіць выбар) павінен аддаць першаму.

**Я свядома падкрэсліваю гэтыя словы.**

**Сем год ужо, як бушуе над нашымі галовамі вецер перамен. І кожны этап як бы высвятляе наступны паварот шляху. Асабіста я, які ўжо амаль 20 год займаецца вывучэннем беларускай культуры, яе своеасаблівасці і г.д., натуральна з'яўляюся і прыхільнікам беларускага Адраджэння. Ці мне не ведаць цяжкага шляху беларускага этнасу, яго барацьбы на мяжы (куды там экзістэнцыялізму ўявіць сабе гэтую страшэнную карціну) жыцця і смерці, яго мары — «людзьмі звацца»? Сапраўды, ці не мне, які шчыра адчувае сябе перш за ўсё беларускім эстэтыкам, які тры з паловай дзесяцігоддзі пражыў на гэтай зямлі, які ўдзячны ёй за ўсё: і за адукацыю, і за выхаванне, і за сустрэчу з добрымі людзьмі, якія напоўнены мяккасцю і любоўю? Але ёсць і іншы бок медаля. І тут прыйдзецца стаць у пазіцыю не эстэтыка, а суровага філосафа. Справа нават не ў тым, што я, напрыклад, рускі і, вядома, не думаю адхрышчвацца ад лепшых здабыткаў культуры свайго этнасу (які можа і павінен узбагаціць культуру незалежнай Беларусі). Усё роўна я прадстаўнік творчай інтэлігенцыі Беларусі. І ў такой якасці я, зразумела, павінен усё тое, чым валодаю, аддаць майму народу. Мае веды дазваляюць мне зрабіць прагноз: трэба, усё ж трэба аддаць перавагу правам чалавека перад правамі этнасу.**

**Гэта зразумелі ўжо ў Еўропе, ва ўсім цывілізаваным свеце. Я ведаю, што гэта так балюча яшчэ і таму, што «беларуская ідэя»—магістральная канцэпцыя жыцця карэннага нашага (я маю на ўвазе абшары Беларусі) этнасу, яшчэ не рэалізавалася. Можна абвінавачваць гісторыю, можна—бальшавікоў, якія загналі нацыянальную праблему ўглыб, не думаючы вырашаць яе. Але нават і ў сучасным стане выйсце можа быць толькі адно: развіццё разам, побач, у «сумоўі»: правы чалавека і правы этнасу. Інакш? Інакш шлях зусім зразумелы і адназначны: гэта шлях пабудовы не дэмакратычнага, а этнакратычнага грамадства. На жаль, і ў нас, на Беларусі, сёння ёсць адраджэнцы, якія так перабольшваюць беларускую ідэю, што становіцца сорамна за іх. І да таго ж, гэта не адпавядае сутнаснаму характару беларускага этнасу: у іх учынках і дзеяннях часам няма ні сціпласці, ні мяккасці, ні добразычлівасці, ні талерантнасці (вызначальныя рысы беларускага нацыянальнага характару). Да таго ж, такія дзеянні выклікаюць адпор з боку іншых этнасаў (мяне больш за ўсё ў гэтым сэнсе турбуюць прадстаўнікі магутных этнасаў на беларускай зямлі: расійскага і польскага, з іх моцнай культурай і моцным узроўнем нацыянальнай самасвядомасці). А што можа адбыцца з гэтага—вядома. Дастаткова зірнуць побач—на сітуацыю ў Грузіі—Абхазіі, альбо яшчэ бліжэй — у Латвіі. Калі мне давялося мінулай вясной адпачываць у Юрмале, я пазнаёміўся з некаторымі матэрыяламі ў галіне міжнацыянальных адносін. У зборніку «Мы ў Латвіі» («Звайгзне», Рыга, 1989) маю ўвагу прыцягнуў артыкул акадэміка Яна Страдыня (гісторык навукі). Галоўная думка гэтага артыкула: «Чалавек — перш за ўсё чалавек, і толькі пасля гэтага латыш альбо рускі». Цудоўныя словы, пад якімі маглі б падпісацца і Альберці, і Петрарка, і іншыя «стаўпы» класічнага італьянскага Адраджэння.**

**Але сёння ў Латвіі зусім не так. Міністр замежных спраў Латвіі ледзь не страціў свой пост за тое, што сказаў неяк, што і «акупанты таксама людзі». Мне давялося прысутнічаць на з'ездзе рускай абшчыны Латвіі: чаго толькі я там ні наслухаўся! А самае сумнае ўражанне было ад таго, што паміж латышамі і «рускамоўнымі» (дарэчы, тых і іншых у Латвійскай Рэспубліцы збольшага роўная колькасць) няма аніякіх нармалёвых стасункаў. І абодва бакі як бы чакаюць, калі адыдуць апошнія расійскія войскі з Латвіі. І што тады будзе—не ведаю, баюся падумаць—пры тым напружанні, якое адчувалася вясной 92-га...**

Веру, што народ Беларусі зможа перадолець усё: і інерцыю, народжаную былымі партакратамі, і экстрэмісцкія выверты «пераходнага часу», і эканамічную разруху, і складанасці пабудовы цывілізаванага чалавечага грамадства. Але хачу яшчэ раз падкрэсліць, што апошняе прынцыпова немагчыма, калі ставіцца да чалавека, як да другараднай з'явы. У чалавека, як было сказана вышэй, шмат ёсць чаго і бруднага, слабога, жывёльнага. Але ёсць у ім і павінна быць узнёслае, тое, што стварае прыгожае на зямлі, абагачае і перабудоўвае гэты свет. І не вельмі важна, адкуль вытокі гэтага стваральнага пачатку—можа, і сапраўды ад Духу Боскага,—галоўнае, што ён ёсць, існуе. Трэба—згодна таксама хрысціянскай традыцыі, такой важнай для быцця культуры на нашай зямлі,—любіць праявы гэтай духоўнасці, гэтай стваральнасці. Хаця б таму, што вышэйшыя паверхі духоўнасці не паддаюцца людзям, не здольным любіць і спачуваць. І таму яшчэ, што самае каштоўнае на гэтай зямлі робіцца праз любоў, дзякуючы любові...

# І ТАДЫ ЗРОБІМ ШМАТ ДОБРАГА...

**З прэс-канферэнцыі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага ФІЛАРЭТА, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі для прадстаўнікоў замежных сродкаў масавай інфармацыі, якая адбылася ў Мінскім Епархіяльным Упраўленні 8 снежня 1992 года**



**— Ці існуе тэндэнцыя адасаблення Беларускай Праваслаўнай Царквы ад Маскоўскага Патрыярхата?**

— На Беларусі была спроба ўтварыць аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў 20-х гадах і ў перыяд фашысцкай акупацыі. У сучасны момант мы можам сустрэць гэту ідэю і пачуць яе як пытанне да Царквы, але такіх тэндэнцый, якія б зыходзілі з царкоўных колаў, ад царкоўнай іерархіі або святароў Беларускай Праваслаўнай Царквы, на сёння няма.

Справа ў тым, што рост нацыянальнай самасвядомасці ў Царкве ёсць, але пасля вайны ў нас доўгі час была магчымасць мець на тэрыторыі ўсёй Беларусі толькі адну Мінскую епархію. Толькі з пачаткам перабудовы ў краіне мы змаглі пачаць працэс адраджэння старажытных беларускіх епархій. Памесны Сабор Рускай Праваслаўнай Царквы задаволіў нашу просьбу аб утварэнні на тэрыторыі Беларусі Экзархата. Гэтым пэўная самастойнасць ужо дадзена нашай Царкве. Мы маем зараз 10 епархій, свой Сінод, які вырашае ўсе ўнутраныя справы Беларускай Царквы. Наколькі я разумею сёння настрой епіскапата і святароў, мы б не хацелі выходзіць са складу Маскоўскага Патрыярхата, таму што мы ад яго мелі шмат добрага, духоўнай апекі і дапамогі — вельмі вялікай дапамогі, асабліва ў пасляваенны перыяд.

**— Ці можна лічыць, што пасля другой сусветнай вайны Праваслаўная Царква на Беларусі развівалася свабодна, не церпячы ніякіх праследаванняў? Які стан праваслаўна-каталіцкіх адносін на Беларусі сёння?**

— Адразу пасля вайны Праваслаўная Царква на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза атрымала добрыя ўмовы для свайго адраджэння. Але гэта было нядоўга, і з 1958 года злыя хвалі пачалі находзіць на наша жыццё. З аднаго боку, хрушчоўская «адліга» — у цэлым для дзяржавы, з другога — вялікія цяжкасці для Праваслаўнай Царквы: зменшылася больш чым на 50 працэнтаў колькасць яе прыходаў. Гэта зведала і Беларуская Царква. На 1978 год, калі я атрымаў назначэнне на Мінскую кафедру, на Беларусі было 360 праваслаўных прыходаў. За апошнія тры гады гэтая лічба павялічылася і зараз складае 760.

Што тычыцца адносін паміж Праваслаўнай і Каталіцкай Цэрквамі, то ў нас не было і, я б сказаў, няма канфліктаў такіх вострых, якія мы назіраем на Украіне.

**— Як Ваша Высокапраасвяшчэнства ацэньвае перспектывы экуменічнага збліжэння Праваслаўнай і Каталіцкай Цэркваў? Можна пачуць, што Праваслаўная Царква з'яўляецца інструментам русіфікацыі, а Каталіцкая — паланізацыі Беларусі: у якой ступені гэта праўдзіва?**

— Наконт экуменічнай перспектывы... Магу сказаць, што наша Праваслаўная Царква стаіць на экуменічных пазіцыях і шкадуе, што сёння ідэя экуменізма скампраметавана і пратэстанцкімі, і Каталіцкай Царквамі, якія скарысталіся свабодай дзеянняў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза і забыліся на нашы сяброўскія і брацкія адносіны, якія нам не так лёгка даліся. Руская Праваслаўная Царква вельмі многа рабіла для таго, каб у цяжкіх умовах таталітарнай дзяржавы развіваць рэлігійныя, міжрэлігійныя і міжканфесійныя адносіны, улічваючы і заўсёды з вялікай адказнасцю ўсведамляючы, што на тэрыторыі Савецкага Саюза Царква Праваслаўная — Царква-лідэр. Калі змянілася палітычная сітуацыя, з'явілася магчымасць свабоднай пропаведзі, пачалася літаральна экспансія пратэстанцкіх прапаведнікаў і Каталіцкай Царквы, а яшчэ правільней было б сказаць — Ватыкана. Маючы добрыя адносіны з многімі каталіцкімі іерархамі і разважаючы з імі наконт той сітуацыі, якая на сёння склалася, мы адчувалі і проста чулі з іх вуснаў, што яны не ўхваляюць палітыку экспансіі. На гэту тэму можна шмат чаго сказаць, я ж проста адзначыў факт, што праблема існуе. Мы абмяркоўвалі яе на самым высокім узроўні, знайшлі разуменне і маем надзею, што экуменізм будзе жыць і не перарасце ў празелітызм — пераманьванне хрысціян з адной канфесіі ў другую, іх перахрышчванне.

**— Як Вы лічыце, Уладыка: адраджэнне грэка-каталіцкай Царквы на Беларусі ўяўляе сабою пагрозу для Царквы Праваслаўнай?**

— Пагроза была і ёсць: гэта наша пасіўнасць у захаванні веры бацькоў, прынятай у Хрышчэнні Русі. Пагроза — у паўтарэнні гістарычных памылак у адносінах паміж Цэрквамі. У прынцыпе, унія — гэта няпраўдзівы шлях да адзінства ў Царкве і, на мой погляд, гісторыя нас навучыла, што унія прыводзіць не да адзінства, а да канфліктаў і паглыблення падзелу паміж Праваслаўем і Рыма-Каталіцтвам. Аб гэтым вельмі яскрава сведчыць гісторыя уніяцкага руху на Беларусі ў мінулым і сучасныя падзеі на Украіне. Таму я шчыра кажу прадстаўнікам Ватыкана і Рыма-Каталіцкай Царквы: калі вы хочаце ўскладніць нашы экуменічныя адносіны, калі вы хочаце пасварыць нас адно з адным, то праводзьце палітыку уніі — гэта нецаркоўны, палітычны шлях да царкоўнага адзінства. Я разумею, што ўсім нам, экуменістам, хочацца як мага хутчэй бачыць аднаўленне адзінства ў Царкве. Але гэта цяжкі шлях багаслоўнага дыялогу, практычнага набліжэння адзін да аднаго, пераадолення грэху падзелу. А шлях палітычны, шлях адміністратыўнага аб'яднання — ён, вядома, хутчэй дасягне знешняй мэты, але гэта шлях няпраўдзівы. Такі мой прынцыповы погляд на гэту праблему, які, натуральна, не выключае магчымасці існавання уніяцкай царквы (дарэчы, называць уніяцкі абрад «Царквою» няверна, бо гэта, па сутнасці, ёсць каталіцкае веравызнанне, будзем ужываць гэты тэрмін як «тэрмін тэхнікус»), не выключае права на стварэнне уніяцкіх абшчын. Аднак, калі яны ўзнікаюць, відаць, што яны ствараюцца штучна, кіруючыся, хутчэй, толькі палітычнымі і нацыяналістычнымі ідэямі, аб якіх была размова.

Сапраўды, існуе такое меркаванне, што на Беларусі ёсць дзве канфесіі: адна — польская, другая — руская, і ў народзе часта гавораць «польская вера» і «руская вера». Мы разумеем гістарычнае паходжанне гэтых паняццяў: гаротная Беларусь заўсёды пакутавала ад тых міжнародных канфліктаў і войн, якія праходзілі праз яе землі на ўсход і з усходу на захад.

**— У польскай прэсе з'явілася паведамленне, што на Беларусі — 2 мільёны католікаў. Гэта сапраўды так? Якія Вы маеце ўзаемаадносіны з Польскай Праваслаўнай Царквой?**

— Ведаеце, мы наогул не надта моцныя ў пытаннях інфармацыі і статыстыкі. У цэрквах улік праводзіўся калісьці, у далёкія дарэвалюцыйныя часы. За 70 год нас адвучылі весці статыстыку ў прыходах; у савецкі перыяд царкоўная статыстыка была забаронена. Зараз я не змагу адказаць вам дакладна; адзінае, што нам вядома па апошнім перапісе — 450 альбо 460 тысяч жыхароў Беларусі назвалі сябе палякамі. Хто назваўся палякам, той, відаць, адносіць сябе да Каталіцкай Царквы, хаця, безумоўна, ёсць і беларусы-католікі.

Што да нашых адносін з Праваслаўнай Царквой у Польшчы, то яны самыя сяброўскія, братэрскія. У якойсьці ступені, гэта адзіная Царква, калі разважаць з пункту гледжання геаграфічнага, гістарычнага і этнічнага. Калісьці гэта была частка Рускай Праваслаўнай Царквы. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі польскі ўрад патрабаваў аддзялення Праваслаўнай Царквы ў Польшчы і на Беларусі ад Маскоўскага Патрыярхата.

Зараз у нас самыя добрыя адносіны, мы ўзаемна ўдзельнічаем у падзеях і ўрачыстасцях у жыцці Праваслаўнай Царквы ў Польшчы і на Беларусі. Нядаўна мы перадалі Польскай Царкве святыя мошчы пакутніка Гаўрыіла Беластоцкага, якія знаходзіліся ў Гарадзенскім кафедральным саборы. Праваслаўныя ў Польшчы з вялікім энтузіязмам успрынялі перанясенне святыні ў Беласток. Таксама мы можам адзначыць вельмі актыўны ўдзел Польскай Праваслаўнай Царквы ў нашых урачыстасцях і навукова-царкоўнай канферэнцыі ў час святкавання 1000-годдзя Полацкай епархіі і Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

**— Ці ёсць беларусы, якія лічаць сябе католікамі?**

— Бясспрэчна, ёсць. Ёсць і праваслаўныя палякі.

**— Які стан манаства ў Беларускай Праваслаўнай Царкве?**

— Духоўным цэнтрам для мужчынскага манаства з'яўляецца Жыровіцкі манастыр, для жаночага манаства — Полацкі манастыр, які нядаўна адрадзіўся. Акрамя гэтых двух цэнтраў, у апошні час адрадзіліся жаночыя манастыры ў Гародні і Магілёве, заснаваны манастыр у Хойніках — Гомельская вобласць, Чарнобыльская зона. Працэс адраджэння манастыроў працягваецца, і мы рыхтуем да наступнага пасяджэння Сінода рашэнне аб адкрыцці яшчэ аднаго мужчынскага манастыра.

**— Колькі вернікаў на Беларусі і як праходзіць працэс вяртання да веры?**

— Безумоўна, зараз адбываецца вяртанне людзей да Царквы. Вялікім стымулам у гэтым з'яўляюцца нядзельныя школы. Тэарэтычна, кожны прыход мае магчымасць арганізаваць такую школу. На жаль, не ўсе прыходы могуць зрабіць гэта з прычыны адсутнасці памяшканняў, але большасць прыходаў маюць нядзельныя школы. У іх прыходзяць не толькі дзеці, але і дзеці з бацькамі. Адбываецца адначасовае абвяшчэнне Закона Божага і дзецям, і бацькам. Часта і адміністрацыя сярэдніх агульнаадукацыйных школ запрашае прадстаўнікоў Царквы на асобныя сустрэчы або для чытання некалькіх лекцый па Законе Божым; некаторыя школы арганізуюць сістэматычныя заняткі па гісторыі рэлігіі, гісторыі хрысціянскай Царквы.

Святароў запрашаюць таксама ў турмы і папраўчыя ўстановы, і мы з радасцю адгукаемся на такія запрашэнні. Людзі, што трапілі ў зняволенне, былі ў свой час далёкія ад Царквы, але пасля сустрэч і размоў са святарамі многія духоўна адраджаюцца. Адным наведваннем гэта не заканчваецца: мы прыходзім ужо і спавядаць, і прычашчаць, і нават хрысціць. Кіраўніцтва папраўчых установ шмат разоў паведамляла нам, што пасеянае ў душах вечнае слова Божае дае свае ўсходы, і паводзіны навернутых да веры Хрыстовай відавочна змяняюцца да лепшага. Адбываюцца таксама сустрэчы з вайскоўцамі ў месцах іх размяшчэння, што таксама мае станоўчае ўздзеянне. Даволі часта паўстае пытанне аб палкавых свяшчэнніках.

**— Якія прыклады пратэстанцкай і каталіцкай экспансіі і празелітызму на Беларусі?**

— Карыстаючыся з свабоды дзеянняў і моцнай прыцягальнасцю долара, пратэстанцкія прапаведнікі адзін за адным і цэлымі кампаніямі прыязджаюць і на Беларусь, і на Украіну, і асабліва — у Расію. Яны арандуюць самыя вялікія пляцоўкі ў гарадах, шчодра плацяць за час для сваіх праграм па радыё і тэлебачанні, шырока скарыстоўваюць усе віды— на жаль!.. — сучаснай рэкламы, арганізуюць масавыя «фестывалі Ісуса». Гэта можна назваць толькі словам «шоу». Народам царкоўным і з каталіцкага, і з праваслаўнага боку ўсё гэта ўспрымаецца як горшы спосаб пропаведзі Евангелля. Вядома, людзі збіраюцца: дзейнічае рэклама, да таго ж — дармавое відовішча. Бывае нават цікава, з музычным суправаджэннем, калі прапаведнік выступае пад раяль або аркестр, але самае галоўнае: пасля атрымаеш бясплатна кніжачку. Чаму не схадзіць? Чаму не ўзняць руку, калі прапаведнік запытае: «Хто прыняў сёння Хрыста?» Гэтыя метады здольныя толькі на разавы эфект. Усё гэта непрымальна для нашай псіхалогіі, нашай рэлігійнай свядомасці.

Што да каталіцкай экспансіі, я скажу вам шчыра, што мы тут, на Беларусі, перажываем зараз сапраўды непрыемны момант. Мы добра разумеем праблемы Каталіцкай Царквы — не хапае святароў. Іх запрашаюць з Польшчы. Дазволілі — і я толькі падтрымліваю гэта, таму што, як епіскап, разумею сутнасць праблемы. У мяне таксама не хапае святароў. Калі б мне зараз далі сто свяшчэннікаў, мы б і іх усіх прынялі, таму што ёсць прыходы, дзе адзін свяшчэннік не можа справіцца са сваімі абавязкамі, патрэбна дапамога; ёсць свяшчэннікі, якія абслугоўваюць два і нават тры прыходы. У гэтым пытанні і праваслаўныя, і католікі знаходзяцца ў роўных цяжкіх абставінах. Але тым, хто прыязджае, трэба памятаць, што гэта — Беларусь, а не Польшча. Ксяндзы з Польшчы павінны ўсведамляць, што яны прыехалі ў Рэспубліку Беларусь і што з касцельнага амбона гаварыць аб межах 1939 года — гэта нонсенс. Вывешваць польскі сцяг у касцёле — гэта таксама, я думаю, не да месца, як і не па-брацку гаварыць аб Праваслаўі, што гэта «не тая» вера. Гэтыя факты нас насцярожваюць і не садзейнічаюць развіццю экуменічных адносін. Такое ўражанне, што мы жывём не напярэдадні трэцяга тысячагоддзя, а дзесьці ў XVI—XVII стагоддзях, калі меркаваць па тых настроях, што сеюцца місіянерамі ў народзе. Мы можам аб гэтым шкадаваць, але не робім з гэтага перашкоды да далейшага развіцця добрых братэрскіх адносін у Хрысце.

У мяне асабіста вельмі многа добрых адносін з епіскапамі Рыма-Каталіцкай Царквы тут і далёка з межамі Беларусі, і я прашу сваіх клірыкаў Беларускай Праваслаўнай Царквы таксама развіваць падобны стан узаемаразумення.

Трэба зразумець усім нам, што надта хуткім маршам мы да царкоўнага адзінства не прыйдзем. Уз'яднанне Царквы Хрыстовай—у руках Божых, і мы павінны быць Яму паслухмяныя. Калі будзем слухаць Бога, зробім шмат добрага.

Падрыхтаваў да друку ў «ЛіМе»
В. ДЫШЫНЕВІЧ.

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі:Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры; Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Нумар падпісаны ў друк 6. 1. 93 у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ



Індэкс 63856
Тыраж 15.000.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12